Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА

# Газета для вас

30 ліпеня 1997 года

СЕРАДА

№ 36

Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### Партнёрства захавалася

**БЯРОЗА.** Пакуль некаторыя бездапаможныя кіраўнікі, звыклыя працаваць з-пад палкі і па ўказцы зверху, лементуюць аб парваных эканамічных сувязях, Белаазёрскі энергамеханічны завод больш за палову таварнай прадукцыі паранейшаму пастаўляе на рынкі блізкага замежжа. Партнёрства захавалася, але цяпер яно працягваецца ў новых умовах гаспадарання. На экспарт ідуць вырабы для цеплавых электрастанцый, якія ахвотна набываюць энергетыкі Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Малдовы і Узбекістана.

Геаграфія паставак расшыраецца. Прадпрыемствам зацікавіліся фірмы Польшчы і Фінляндыі.

### Мы выміраем

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Гэта страшна, але сапраўды так. Вось лічбы. Сёлета за першае паўгоддзе ў раёне нарадзілася 331 дзіця, а памерла 515 чалавек.

Па нашай рэспубліцы лічбы такія: нарадзілася за шэсць месяцаў гэтага года 37725, а памерла 61545 грамадзян. Тут, як кажуць, каментары не патрэбны.

### Пазбавілі пасады... пацукі

**БАРАНАВІЧЫ.** У дзіцячым садку № 56 зарэгістравана ўспышка іерсініёзнай інфекцыі (псеўдатуберкулёзу). Крыніцай захворвання аказаліся пацукі, якія даўно тут знайшлі сабе прытулак. Праз прадукты харчавання, да якіх мелі доступ хвастатыя, перадавалася гэтая зараза. 24 малышы былі заражаны, некалькі з іх трапілі ў бальніцу.

Вінаватай у дадзеным выпадку палічылі загадчыцу садка, яе і вызвалілі ад пасады. А санстанцыі прыйшлося папрацаваць, каб пазбавіцца ад пацукоў.

## ● НА СЕЛЬСКІХ СКРЫЖАВАННЯХ



*Прыкаваныя да сваіх сотак, да калгаснага поля вясковыя бабулі аж да самых апошніх дзён будуць круціцца ў працы. Не выпадае па вуліцы прайсці спакойна: усё подбегам, у спешцы, у тлуме турботаў.*

*І гэты нязграбны мотаблок для іх – вялікая тэхніка. Хто змог набыць яго гадоў дзесяць таму, цяпер не нарадуецца. Цяпер жа ён каштуе ажно 40 мільёнаў. Пакажыце нам селяніна, які мае такія шалёныя грошы! Такі вось клопат пра вяскоўцаў і іх падсобныя гаспадаркі.*

*Даруем дзядзьку, які насуперак усім правілам руху пасадзіў жанчын у маленькі кузаў. Няхай пад'едуць крыху – спрацаваным нагам ужо лягчэй. Пасвятлела на бабуліных тварах: няма нуднага дажджу і можна даць рады распачатай рабоце.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

### Піянер дзіцячага ўзросту

**БАРАНАВІЧЫ.** Споўнілася пяць гадоў недзяржаўнаму эканоміка-юрыдычнаму тэхнікуму – піянеру недзяржаўнай адукацыі ў заходнім рэгіёне рэспублікі. Ён адным з першых прайшоў акрэдытацыю ў Міністэрстве адукацыі і атрымаў права выдачы дзяржаўных дыпломаў. Напярэдадні свайго дня нараджэння тэхнікум прайшоў акрэдытацыю на павышэнне свайго статусу. Асноўная спецыяльнасць, па якой вядзецца падрыхтоўка навучэнцаў, – „Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве" са спецыялізацыяй „Прававое забеспячэнне гаспадарчай дзейнасці". У сёлетнім навучальным годзе дабавіцца новыя спецыяльнасці – „Правазнаўства" і „Дакументазнаўства. Дакументацыйнае забеспячэнне кіравання".

У тэхнікуме выкладаюць спецыялісты высокага класа. Сярод іх – дзевяць кандыдатаў навук.

Многія выпускнікі тэхнікума працуюць галоўнымі спецыялістамі буйных фірм.

### Ёсць у будоўлі пачатак

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Гэты новы цэх ратыфікацыі ўжо год узводзіцца на спіртзаводзе. Як сказаў нам галоўны інжынер М. І. Осіпаў, кошт яго звыш 20 мільярдаў рублёў. Летась сюды завезлі абсталяванне, якое каштуе таксама нямала – 5,5 мільярда расійскіх рублёў. Усе працэсы ў цэху будуць аўтаматызаваны, так што практычна колькасць рабочых на заводзе амаль не павялічыцца.

Будаўніцтва працягваецца. Зрабіць трэба яшчэ шмат. Справа ў тым, што цэх будзе спажываць многа вады (50 кубаметраў у гадзіну), таму, каб забяспечыць нармальную яго работу, неабходна прабіваць сваю свідравіну. А гэта зноў вялікія затраты.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці (да таго ж будаўнічыя матэрыялы даражаюць штодня), новы цэх усё ж узводзіцца. Кіраўнікі завода ўпэўнены, што давядуць справу да канца.

### Касцёл галодных разумее

**БАРАНАВІЧЫ.** Нямала гуманных акцый праводзіць мясцовы касцёл Маці Боскай Фацімскай. Гэтым летам у Аўстрыі адпачывалі 20 дзяцей – удзельнікаў хору касцёла. Больш за 50 дзяцей цяпер знаходзіцца ў Польшчы. Напрыканцы чэрвеня 220 дзяцей і маладых людзей разам з братамі і манашкамі пешшу прайшлі 270 кіламетраў ад Баранавічаў да Будслава. Добрыя знаёмствы з простымі людзьмі, якія кармілі і пускалі пераначаваць вандроўнікаў, надоўга застануцца ў памяці.

Касцёл дапамагае бедным і шматдзетным сем'ям, выдае бясплатныя абеды. Сорак такіх сем'яў зараз прымацаваны да храма і могуць разлічваць на яго дапамогу.

### Юбілей: гуляць дык гуляць

**БЯРОЗА.** Свята – гэта калі знешняя радасць сапраўды пранікнуць унутр, а ўнутраная выплюхваецца наверх. Інтэнсіўней за ўсё дадзеныя працэсы развівалiся ў бярозаўцаў з нагоды 520-гадовага юбілею горада. Свята, санкцыяніраванае мясцовымі ўладамі, прайшло амаль з мінскім размахам: тэатральнае прадстаўленне, канцэрты ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, кірмашы дароў агародаў і садоў, выступленне вядомага вакальна-інструментальнага гурта „Сябры", дэлегацыі раёнаў-суседзяў...

Народнае гулянне не набыло, дзякаваць Богу, зацяжнога сталічнага характару.

### Патрэбнае стала непатрэбным

**БАРАНАВІЧЫ.** Каб звесці неяк фінансавыя канцы з канцамі, баваўнянае аб'яднанне пазбаўляецца ад сваёй камунальнай уласнасці. На балансы гарадскіх службаў перададзены водаправод і каналізацыя ў пасёлку тэкстыльшчыкаў, многія жылыя дамы. Нядаўна падпісан пратакол аб перадачы спартыўнай залы. На чарзе – вывад з прамысловага корпуса стаматалагічнай паліклінікі і фізіятэрапеўтычных кабінетаў у пустуючае памяшканне ведамаснага дзіцячага садка. Сваіх работнікаў медыкі абслугоўваюць бясплатна, пабочных асобаў – за грошы. Але не ўсякі жадаючы мог патрапіць да ўрача праз строгую прапускную сістэму. Цяпер наведвальнікаў збоку, папаўняючых бальнічную касу, пабольшае.

Тэкстыльшчыкам проста не па кішэні ўтрымліваць розныя невытворчыя службы з-за хранічных працяглых прастояў. Таму яны і рашыліся на такі крок, пагаршаючы тым самым сацыяльную абарону калектыву.

### Аўтарская вечарына

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У мінулую суботу на сцэне гарадскога Дома культуры выступаў кампазітар і выканаўца ўласных песень з Гомеля Зміцер Бартосік. Яго песні аб нашым жыцці – падчас бязладным, трывожным і бязрадасным – былі зразуметы слухачамі, выклікалі бурную рэакцыю. Яго музыка спадабалася прысутным.

Бард крыху расказаў пра сябе, пра сваю творчасць, жадаючым пакінуў аўтографы.

### З канторы бачна ўсё

**БАРАНАВІЧЫ.** Праўленне калгаса „Шлях Леніна" не пашкадавала 166 мільёнаў рублёў, каб набыць хітрую японскую апаратуру – тэлекамеры. Зараз яны ўстаноўлены на машынным двары. Старшыня калгаса, дыспетчар і спецыялісты, седзячы ў канторы, бачаць на маніторах усё, што робіцца ў гаражы і мехмайстэрні. Бачнасць у любы час сутак выдатная.

Схаваныя тэлекамеры з'явяцца на збожжатаку, потым – на ўсіх фермах. Трымайцеся, злодзеі і абібокі! Цяпер ад нябачнага тэлевока вам не схавацца. Камуністычнае выхаванне па-ленінску вас задужа многа распладзіла, цяпер выхаванне па-японску, магчыма, адаб'е ахвоту цягнуць усё, што душа пажадае. Вось толькі ці захочуць людзі працаваць пад пільным вокам тэлекантралёраў, калі красці стане немагчымым?

### Явление министра народу

**БЕРЁЗА.** Министр спорта и туризма РБ Владимир Макейчик рванул на периферию, чтобы осмотреть свои спортивные владения. Побывав в Бресте и Кобрине, по дороге завернул в Берёзу, посетил её физкультурные объекты, побывал в цехах Белоозёрской фабрики спортивной обуви. Говорят, столичный чиновник остался доволен увиденным и пообещал материальную поддержку со стороны возглавляемого им министерства. Мы-то знаем, что таким кадрам обещания выполнять совсем не обязательно. Иначе кому-то пришлось бы ложиться на рельсы, идти в отставку через два года или даже давать голову на отсечение.



*Сердечно поздравляем*

*От всей души с юбилеем поздравляем прекрасного человека и отличного специалиста Вячеслава Григорьевича КУЛИНИЧА из г. Ивацевичи. Крепкого здоровья, радости, мира и спокойствия тебе!*

*Живи и знай, что жизнь прекрасна,*
*И сколько не было бы в ней зла,*
*Не обижай людей напрасно,*
*Умей простить, но знай когда.*
*Умей смеяться, когда грустно,*
*Умей грустить, когда смешно,*
*Умей казаться равнодушным,*
*Когда в душе совсем не то.*

*ДРУЗЬЯ.*

● ПІСЬМО З КАМЕНТАРЫЕМ

# За што грошы плаціць?

*Паважаная рэдакцыя! Тры месяцы таму я напісала пісьмо ў рэдакцыю газеты „Беларуская ніва", але да гэтага часу не атрымала адтуль ніякіх звестак. І вось рашыла напісаць вам. Я інвалід другой групы, жыву ў 90-кватэрным доме. Мая кватэра не прыватызавана. За ўсе камунальныя паслугі плачу рэгулярна, шостага чысла кожнага месяца пасля атрымання пенсіі. Запазычанасці ніколі не было. А тут нечакана ў гаргазе мне сказалі, што я павінна заплаціць 37 тысяч рублёў доўгу. Адкуль жа ён узяўся?*

*А вось што было. У лютым у нашым доме праходзіў прафілактычны рамонт газавых прыбораў. Былі і ў мяне газавікі, памазалі памазком з мылам часткі на трубах і ўпэўніліся, што газ не сочыцца, далі распісацца ў ведамасці, што ўсё ў парадку, і пайшлі. Ніякага рамонту, як у іншых кватэрах, не было. Праз некаторы час мне і паведамілі пра той доўг. Цікава, за што ж плаціць, калі ніякага прафілактычнага рамонту не было.*

*Спрабавала я што-колечы даведацца. Званіла ў гаргаз. Сказалі: трэба плаціць. Тое ж самае пацвердзілі і камунальнікі.*

*Хацелася б праз газету даведацца ці правільна паступаюць са мной.*

*Я. ГОЛУБ,*
*жыхарка г. Івацэвічы.*

● ● ●

Вось такое пісьмо прыйшло ў рэдакцыю. Мы звязаліся з тымі раённымі службамі, пра якія гаворыцца ў пісьме. Дарэктар Івацэвіцкага райгаза Р. Р. Бярынчык, выслухаўшы змест пісьма па тэлефоне, згадзіўся выслаць спецыялістаў на месца, каб азнаёміцца з якасцю прафілактычнага рамонту газавых прыбораў.

Мы ў кватэры Яўгенні Сцяпанаўны Голуб. Інжынер прафілактычна-тэхнічнага аддзела райгаза А. Г. Рахавецкі напомніў уладальніцы кватэры аб асобных пунктах інструкцыі карыстання газам, прафілактыкі і рамонту газавых прыбораў, аб дагаворы, які заключаны ёй з райгазам, выслухаў таксама Я. С. Голуб.

– Я не супраць платы, – яшчэ раз падкрэсліла Яўгенія Сцяпанаўна, – калі нейкі рамонт зроблены. А ў мяне яго не было. За што плаціць? Я гатова заплаціць 10 ці 15 тысяч рублёў за прафілактычны агляд. Вунь у іншых кватэрах гадзіну ці дзве рамонт рабілі і столькі ж узялі. Дзе ж справядлівасць?

Сапраўды, тут узнікаюць пытанні. У аднаго рамантуюць, у другога, як у Я. С. Голуб, толькі глянулі, што ўсё ў парадку, а плата адна – 37 тысяч рублёў. Таму і абуралася людзі. Гэта можна было пачуць і ад уладальніцы кватэры № 47 С. І. Гурыновіч, якая прыйшла сюды да сваёй знаёмай.

– Нам далі такія расцэнкі, – толькі і змог у апраўданне сказаць А. Г. Рахавецкі.

Хто можа змяніць гэтыя расцэнкі, каб дыферэнцыравана падыходзіць да кожнага выпадку прафілактычнага рамонту газавых прыбораў у кватэрах, засталося пакуль што невядомым і для работнікаў райгаза, што былі ў кватэры Я. С. Голуб, і для самой гаспадыні. Словам, пытанне застаецца адкрытым.

А хто ж павінен плаціць за прафілактычны рамонт газавых апаратаў, калі кватэра не ўласная, непрыватызаваная? Аб гэтым таксама пытае Я. С. Голуб.

Звонім у раённае аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі. У бухгалтэрыі нам адказалі, што не ведаюць гэтага, але ў сваіх кватэрах за такі рамонт плацілі самі і параілі звярнуцца да галоўнага інжынера. Але яго не ўдалося двойчы застаць на месцы. Дый, відаць, і не патрэбна, калі звярнуцца да дагавора, які заключаны паміж наймальнікам кватэры і наймадальнікам (камунгасам). У ім сказана, што наймадальнік абавязуецца выпраўляць пашкоджанні санітарна-тэхнічнага і іншага абсталявання ў кватэрах наймальнікаў...

Гэта азначае, відаць, што ўсе віды рамонту газавых прыбораў вядуцца не за кошт наймальніка. Так ён і разумее гэты пункт дагавора.

Што ж, будзем чакаць, як урэшце названыя раённыя службы вырашаць пытанне з аплатай за прафілактычны рамонт газавых апаратаў у непрыватызаваных кватэрах.

● ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО?..

## КТО САМЫЙ ГЕНИАЛЬНЫЙ

Собрал их и определил по степени воздействия на историю и общество ученый Майк Харт в своей книге „Сто самых влиятельных личностей в истории, расставленных по порядку".

Список наиболее влиятельных личностей начинается с сюрприза. Первую ступеньку пьедестала занимает Магомет. Объясняется это тем, что он был не только пророком, но и организатором, основателем мусульманской религии. Поэтому он и потеснил Христа на 3-е место, так как христианство оформили и организовали другие, в первую очередь Павел, занимающий 6-е место.

Во главе списка еще два великих вероучителя: Будда – на 4-м месте и Конфуций – на пятом. Зато второе место неожиданно досталось Ньютону.

Среди ста гениев больше всего ученых и изобретателей – 37. Причем многие из них – в первой двадцатке. Гутенберг – 9-й, Эйнштейн – 10-й, Пастер – 12-й, Галилей – 13-й, Дарвин – 17-й.

Следующая категория – политики и военачальники. Их тридцать. Затем идут философы – 14 мыслителей начиная с Маркса, который занял 11-е место.

Одиннадцать гениев проявили себя как религиозные лидеры.

Музы представлены крайне скупо – по двое гениев от литературы, искусства и музыки. Шекспир – 36-й и Гомер – 94-й; Микеланджело – 49-й и Пикассо – 96-й; Бетховен – 42-й и Бах – 74-й.

Хронологическая таблица показывает два пика. Первый „звездный час", растянувшийся на 400 лет, был между УI и II веками до нашей эры. Другой плодотворный период начался в ХУ столетии и продолжается до сих пор.

Географическое распределение гениев неравномерно. Африка дала лишь трех, Латинская Америка одного – Боливара, Азия – 18, США – 7. Остальные 71 родились в Европе.

Из них трое – уроженцы России. Ленин – на 15-м месте, Сталин – на 63-м, Петр Великий – на 91-м.

# Для дома, для семьи, для души...

● ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

## СЕКРЕТ ТИБЕТСКИХ ЛАМ

Прост, эффективен и никому не причиняет вреда способ тибетских лам по очистке организма с помощью риса. Годятся зерна не продолговатые, а округлые. Наберите столько столовых ложек, сколько вам лет. Помойте, засыпьте в банку, залейте холодной кипяченой водой, закройте крышкой и поставьте в холодильник.

Утром воду слейте, возьмите столовую ложку с верхом риса, сварите (3–4 мин.) без соли и съешьте натощак до половины восьмого утра. Оставшийся рис снова залейте водой и поставьте в холодильник. Так – каждое утро, пока рис не закончится.

Секрет метода в том, что рисовое зерно имеет кристаллическую решетку. Замачивая зерно, а потом сливая воду, вместе с ней удаляем крахмал. На зернышках образуются ячейки. Рисовая каша не переваривается в желудке и быстро попадает в 12-перстную кишку. Здесь свободные ячейки втягивают в себя то, что мы называем шлаками. Таким образом очищается не только кишечник, но и весь организм.

● ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## ПРОТИВ ТАРАКАНОВ

Купите в аптеке борную кислоту. Смешайте 30–40 г кислоты с одним сырым яичным желтком, полученную массу распределите небольшими порциями на картонки, жестяные крышки и установите их в разных местах кухни, ванной комнаты и т. д.

ХХХ

К 100 г горячего размятого картофеля добавьте 10–20 г борной кислоты и 3–5 г подсолнечного масла, разложите смесь на картонки, крышки и установите их в наиболее часто посещаемых тараканами местах.

ХХХ

Еще одно „угощение" для насекомых – шарики из смеси 10–20 г борной кислоты, 70–80 г картофельного пюре или манной каши, 10 г. сахарной пудры и части сырого яйца (для вязкости).

ХХХ

Гибель тараканов вы будете наблюдать через 5–7 суток. Приготовленные вами малотоксичные, безвредные для человека средства могут оставаться на обработанной поверхности достаточно долго, до тех пор, пока не исчезнет последнее насекомое.

● ДЛЯ ВАС, МАМЫ!

## МОЛОКО РЕБЕНКУ

Молоко – главный продукт для растущего организма, но ребенку старше года уже недостаточно только тех пищевых веществ, которые он может получить с молоком. Ему необходима разнообразная пища, а молока в его суточном рационе должно быть не больше 500–600 граммов, включая и то, что идет на изготовление каш и других блюд.

Желательно приблизительно половину этого количества молока заменять кефиром, простоквашей (лучше купленной в магазине, а не заквашенной самими), ацидофилином и другими кисломолочными продуктами. Пищевая ценность молока и этих продуктов одинакова, но в кисломолочных больше ферментов, витаминов и органических кислот, которые активизируют и улучшают процессы пищеварения, нормализуют бактериальную флору кишечника. К тому же белки, содержащиеся в кисломолочных продуктах, легче усваиваются организмом. Поэтому кисломолочные продукты особенно рекомендуются детям при нарушениях деятельности органов желудочно-кишечного тракта и некоторых заболеваниях, в частности аллергических.

Следует иметь в виду, что включать молоко в избыточных количествах в рацион ребенка нежелательно, так как у детей старше года, которые питаются преимущественно молоком, нередко развивается малокровие.

В рацион детей, кроме молока, должны входить овощи, фрукты, крупы, растительное и сливочное масло, яйца, мясо, рыба, хлеб, то есть самые разнообразные продукты, содержащие все необходимые растущему организму вещества.

● УЛЫБНИТЕСЬ

Муж с женой собираются в отпуск.

– Детей отдадим маме, – говорит жена, – собаку и канарейку – тете, а кошку возьмёт дворник... Кстати, о чем ты там задумался?

– Если в квартире будет так тихо, зачем нам куда-то ехать отдыхать? Можно и дома отдохнуть!

ХХХ

– Да, дорогая, прости меня, пожалуйста, на прошлой неделе я забыла тебя поздравить с законным браком. Прими мои поздравления теперь...

– Поздно, дорогая, я уже развелась!..

ХХХ

– Сколько одиноких мужчин мечтают о хорошей жене!

– А сколько женатых!

● ПРАЗ ЦЕРНІ – ДА РЫНКУ

# „СТЫЛЬ" ДАПАМОЖА ВАМ ЗНАЙСЦІ СВОЙ СТЫЛЬ

**Вось ужо каля 5 гадоў швейнае атэлье ў Івацэвічах змяніла сваю назву на швейнае прадпрыемства „Стыль". Як цяпер ідуць справы на прадпрыемстве? Што яго работнікі могуць прапанаваць тут кліентам?**

**На гэтыя і іншыя пытанні нашаму карэспандэнту адказвае дырэктар прадпрыемства Валянціна Барысаўна ОСІПАВА.**

**– Валянціна Барысаўна, ці змянілася што са зменай шыльды „атэлье" на „прадпрыемства „Стыль"?**

– Адметным стала тое, што мы атрымалі пэўную самастойнасць – фінансавую і эканамічную. Да нас стала менш звяртацца прыватных кліентаў з ліку жыхароў горада і раёна (сказваецца тут агульнае эканамічнае становішча). Больш цяпер абслугоўваем розныя арганізацыі, установы. Да нас звяртаюцца дзіцячыя садкі, заводы, бальніца з заказамі на пашыў спецадзення, халатаў, пададзеяльнікаў і г. д. Акрамя кліентаў з нашага раёна, звяртаюцца і з розных гарадоў Беларусі. Таму можна сказаць, што прадпрыемства працуе з усёй рэспублікай.

**– Насельніцтва (няхай меншая яго частка) усё ж звяртаецца ў „Стыль". Што цяпер можаце прапанаваць сваім кліентам?**

-Мы выконваем пашыў верхняга жаночага адзення, мужчынскіх касцюмаў і штаноў, сарочак і г. д. Акрамя гэтага, „Стыль" прапаноўвае шмат самых розных паслуг па рамонту адзення. У нас можна зрабіць заказ на пасцельныя камплекты, шторы, іншыя рэчы, якія патрэбны чалавеку ў быце. Нашы вопытныя работнікі задаволяць ваш густ і жаданне.

**– Што вы можаце сказаць аб калектыве прадпрыемства?**

– На прадпрыемстве працуе 5 брыгад. Калектыў стабільны. Усе работніцы – з вялікім стажам работы, добра ведаюць сваю справу. Асабліва хацелася б выдзеліць Сніткo Г. Р., Круцель С. А., Валазгіну Т. П., Іванову Н. Г. Гэтыя людзі аддалі сваёй працы шмат гадоў, гэта – касцяк нашага прадпрыемства, яго гонар. Хаця і зарплата невялікая (700–800 тыс. рублёў), але ж людзі ўжо прывыклі, любяць сваю работу, свой калектыў.

**– Чуў, што вам паступаюць заказы нават ад замежных партнёраў?**

– Бываюць заказы з замежжа. У нас пашыць можна танна і якасна, што ім і патрэбна. Вось вісіць узор жаночага касцюма з Бельгіі. Будзем шыць.

**– Традыцыйнае па сённяшнім часе пытанне – аб цяжкасцях і праблемах...**

– Дзе цяпер няма цяжкасцей і праблемаў? Усюды ёсць. У нас іх таксама хапае. Асноўныя праблемы дзве: няма транспарту, каб мы маглі самастойна дзесьці выязджаць, вывозіць сваю прадукцыю ў іншыя месцы. Ну і другая – знайсці рынак збыту тавару. Мы ж акрамя заказаў яшчэ і самі закупляем матэрыялы, шыем розныя вырабы, сочачы за попытам насельніцтва. А ў межах нашага невялікага горада наладзіць збыт цяжка. І ўсё ж неяк і кліентаў знаходзім, і транспарт. Хто працаваць хоча, той заўсёды нейкае выйсце знойдзе.

Гутарку вёў
А. ШЫЛА.

